Цана асобнага нумару 20 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 12 (159) Вільня, Серада 1 Лютага 1928 г. Год IV.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Зямля сялянству бяз выкупу!

АДРЭС РЭДАКЦЫІ І АДМІНІСТРАЦЫІ:
Вільня, Вострабрамская вул. № 8, кв. 1.
(Wilno, ulica Ostrobramska Nr. 8, m. 1).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадз. апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12-ай да 2-ой гадзіны.

Орган Беларускага Сялянскага Саюзу.
Беларуская палітычная, грамадзкая, літэратурная і гаспадарчая газэта.
— ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ. —

ПАДПІСКА:
На адзін месяц — 1 злоты, на тры месяцы — 3 зл., на шэсьць месяцау — 4 зл., на год — 8 зл.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.

## Арганічная злосьць.

(Пісьмо з правінцыі).

Пасьля таго, як прачытаў я ў № 5 „Сял. Нівы“ артыкул „І яшчэ раз“, я з нейкай асаблівай цікавасьцю чакаў адказу. Я думаў, што прапанова „Сял. Нівы“, калі ня выкліча ў кіраўнікоў „Думкі Працы“ жаданьня для гутарак па сутнасьці пытаньня, дык можа хоць распачне рачовую палеміку. Аднак-жа здарылася зусім іначай. У № 9 „Думкі Працы“ мы прачыталі старую зьвягу, але-ж пры гэтым угледзелі і тое абліччэ тэй асобы, якая выліла тую зьвягу. Я ізноў прачытаў адно адзінае бяз ніякіх камэнтарыяў слова—здраднікі (гэта адносна Ярэміча і Рагулі). Прачытаўшы гэта, я яшчэ раз перадумаў усё ад пачатку да сяньняшняга дня!... Я паставіў сабе пытаньне: дзе і як, калі і якім парадкам здрадзілі Ярэміч і Рагуля? Я стараўся найсьці адказ на гэтае пытаньне, як на старонках „Думкі Пр.“, так і яе папярэдніц... І колькі ні шукаў я, ня толькі адказу, але-ж нават маленечкае ўвагі на гэта не знайшоў.

Тады я паставіў другое пытаньне: што-ж мае значыць пісаніна „Думкі Працы“? А вось што: Кідаючы словы здраднікі і не даючы фактаў здрады ў грамадзкай і палітычнай працы нашых абаронцаў і змагароў, паважаных сялянствам б. паслоў Ярэміча і Рагулі, кіраўнікі „Думкі Працы“ сыплюць подлую ілжу на'т не прасейваючы. Відаць, што яны гэтаю пыльнаю ілжою хочуць засыпаць вочы сваім чытачом і выклікаць гэтым ненавісьць і абурэньне да б. пас. Ярэміча і Рагулі. Калі-б закіды былі абаснаванымі на фактах, дык тады была-б зусім іншая гутарка, іншы пагляд на справы... Але-ж цяпер, калі ўся пісаніна „Думкі Працы“ грунтуецца на голых словах, дык ясна, што яна выклікае ў чытачоў толькі насьмешкі над подлымі пісакамі і пагарду да іх за тое, што яны дзікаю ілжою, як пылам, жадаюць засыпаць вочы Беларуса.

Сваей мэты „Думка Працы“ дасягае там, дзе ўжо ёсьць—арганічная злосьць... І вось аб гэтай злосьці прытачу пару словаў і прыклад.

А прыклад будзе гэтакі!...

Сабака брэша бяз ніякага разбору на кожнага і ўсякага і не дзеля таго, што ёй нехта нешта дрэннае зрабіў, а толькі дзеля таго, што на гэтую брахню ў яе арганізьме ўжо самою сабачаю прыродаю паложана такая натура.

Таксама і ў тых людзей, якія пішуць „Думку Працы“, ёсьць такая-ж самая натура, якая пхае іх на бясрычыннае гаўканьне і брахню. Вось гэта і ёсьць арганічная злосьць.

Тую натуру ў сабакаў, якая пабуджае сабаку на брахню і злосьць шмат хто выкарыстоўвае. Гаспадар, які дае сабацы хлеб, трымае сабаку з розных прычынаў, стараючыся, бяз ніякае карысьці для сабакі, выкарыстаць яго ў сваіх мэтах. Таксама і кіраўнікоў „Думкі Працы“, іх гаспадары, на чале з Ваявудзкім, выкарыстоўваюць іх для сябе. Вось прыклад: запраўды такі ўроці якога нельга найсьці запярэчаньняў!...

Падмацоўвае маю думку аб гэтым і тое, што цяпер, калі генэралы Грамады, як: б. пасол Сабалеўскі, Чатырка, Коўш, Уласаў, спадар Я. Станкевіч і многа драбнейшых, аж да жонкі п. Астроўскага, пакінулі „Думку Працы“, дык там нікога ўжо няма, няма такога, каго можна было-б назваць іменем, там асталіся цюцікі. І то ня многа, а столькі, (якіх 3—4 асобы), колькі трэба, каб два разы на тыдзень выпусьціць газэту—перавітаю ілжою і брудам.

Так што цяпер, пасьля некалькіразовае „парцэляцыі“, „Думка Працы“ зьяўляецца органам некалькіх асобаў, якія паслушна і ахвотна цалуюць пяткі Ваявудзкага. А хто такі Ваявудзкі, дык хіба ўжо ўсе добра ведаюць.

У гэтым маім пісьме, можа ёсьць і запраўды трохі моцных выразаў, але-ж я хацеў-бы бачыць іх на старонках газэты, дзеля таго, каб мець магчымасьць падзяліцца сваімі паглядамі з беларускім грамадзянствам.

А. Засуліч.

## Выбарная фільма.

Выбаршчыкі-Беларусы, ці вы ведаеце, што азначае лічба **18**? Гэта ёсьць тая лічба, з якою вы 4 і 11 сакавіка, пашоўшы ў абвадовую камісію да выбарнае скрынкі, павінны будзеце кінуць картачку. Гэтым вы праявіце сваю сьведамасьць і будзеце мець у Сойме і Сэнаце такіх людзей, якія будуць бараніць вашы інтарэсы і правы. Дык памятайце!

### Увазе выбаршчыкаў.

На нашых землях разводзяць асабліва дэмагагічную агітацыю інструктары ад сьпіску № 1. Ня будзем пакуль-што ўходзіць у крытыку гэтага сьпіску, скажам толькі адно, што з ніжэй паданых прозьвішчаў можа кажды выбаршчык дазнацца, чаго варт гэты першы сьпісак.

Вось яго кандыдатуры: Віцэ-міністар Бартэль, міністры — Чэховіч, Медзіньскі, Квяткоўскі, князь Радзівіл (буйны абшарнік) і б. хлопскі пасол Палякевіч і г. д.

Гэты апошні асабліва стараецца захапіць выбаршчыкаў Беластоцкага Выбарнага Округу, дык выбаршчыкі — Беларусы няхай памятуюць, што сабой зьяўляе князь Радзівіл і яго „pachołek“ Палякевіч!... Аддасьць за гэты сьпісак свой голас хіба той, хто ня можа адрозьніць чорнага ад белага!...

### Далейшая лічба дзяржаўных сьпіскаў.

№ 26 — „Украінская Партыя Працы“.
№ 27 — „Поалей-Сыон“ (правіца).
№ 28 — Украінскае групы „За Зямлю і Волю“.
№ 29 — „Інвалідаў і здэмабілізаваных вайсковых“ — Палякоў.
№ 30 — „Каталіцкая унія Заходніх Зямель“.
№ 31 — Сыяністычны дэмакратычны саюз працы“.
№ 32—„Зьедначэньне лявіцы хлопскай“.
№ 33 — „Агуда“.
№ 34 — „Незалежная Сацыялістычная Партыя Працы“.

### Уняважненьне сьпіскаў.

Дзяржаўная Выбарная Камісія 27 студзеня уняважніла 3 сьпіскі кандыдатаў да Сойму: № 27 (Поалей Сыён), № 28 (Аб'яднаньне Украінскага Саюзу („За волю і зямлю“), а так сама № 35 (Партыя Працы Заходніх крэсаў). Апрача гэтага уняважнена № 28 і № 35 сьпіскаў кандыдатаў у Сэнат. Усе гэтыя сьпіскі уняважнены дзеля таго, што, або не хапае падпісаў, вымаганых выбарным законам, або падпісы неразборчывы, або фальшывыя.

Галоўная Дзяржаўная Камісія 31-га студзеня ўняважніла сьпісак № 16 (ППС—лявіца). Прычынаю ўняважненьня зьяўляецца тое, што сьпісак гэты падпісала каля 100 асобаў, ня маючых права прымаць удзелу ў выбарах. Трэба дадаць, што для „баданьня“ подпісаў гэтага сьпіску выяжджалі спэцыяльныя выбарныя ўрадаўцы ў тыя акругі, выбаршчыкі якіх падпісалі гэты сьпісак.

Апрача сьпіску № 16, уняважнены і сьпісак № 23 („Зьвёнзак Хлопскай Еднасьці“, перамалёвана NPCh), а так жа сьпісак „Самапомачы“—„камунізуючай“ арганізацыі Люблінскага ваяводзтва. На чале гэтай арганізацыі стаяў нейкі Вайтовіч.

№ 13 (камуністычны) стаіць яшчэ пад знакам запытаньня.

### Бойка ў Баранавічах.

У Баранавічах, 26 студзеня, у дзень кірмашу адбыўся мітынг, скліканы „РНО“. Мітынг быў вельмі лічны, бо, ведама ў кірмашны дзень. Выступала многа аратараў, між іншымі і Расеец Кузьміцкі, прыехаўшы спэцыяльна для гэтае мэты з Вільні. І вось, у часе самага аратарскага натхненьня, Беларусы сапхнулі Кузьміцкага з трыбуны. Пачалася бойка... кулакамі і кіямі, канец якой палажыла паліцыя, разганяючы, як аратараў так і слухачоў.

### Выбары будуць цьвярозымі.

Міністар Унутраных Спраў выдаў распараджэньне, якім забараніў прадажу і спажыцьцё сьпіртавых напіткаў ад 18 гадзіны таго дня, які папераджае выбары і праз цэлы дзень выбараў. Акрамя гэтага, спадзяючыся, што перад выбарамі могуць быць лічныя сабраньні людзей, Міністар забараніў прадаваць сьпіртавыя напіткі ў дні 2 і 3 сакавіка і ў дзень 10 сакавіка. Ваяводам дадзена права забараніць прадажу водкі і на даўжэйшы час, калі яны знойдуць гэта патрэбным.

### Крызыс у Паўлюкевічавай краме.

У палітычнай крамцы Паўлюкевіча, якая носіць гучны назоў „Беларускай Нацыянальнай Рады“, дашло апошнімі днямі да непаразуменьняў. Непаразуменьні гэтыя вынiклі з таго, што гандляры гэтай крамкі ніяк не згаварыліся з уласьнікам яе, д-рам Паўлюкевічам ...падзяліць мандаты ў лідзкай выбарнай акрузе. Калі Паўлюкевіч ня ўступіць, дык магчыма забастоўка некаторых гандляроў і выхад іх з „Беларускай Нацыянальнай Рады“.

### І яшчэ робяць эфэкт.

„Думка Працы“ увесь час трубіла, што Жыды закупілі ў нас галасы, каб пралезьці ў Сойм. У сувязі з гэтым зьявішчам, што кандыдуюць на першых месцах Жыды, гэтую справу адкладаем на другі раз. Выстаўленыя сьпіскі па акругох пакажуць, якою чорнаю зьяўляецца праўда „Думкі Працы“.

Адносна грошай, дык ужо сама-ж „Думка Працы“ пабівае сама сябе. Бо пісала ўвесь час, што Жыды далі Ярэмічу вялікія грошы, а вось у № 9 напісалі, што Жыды грошай не даюць. Гэтым самым „Д. Пр.“ прызналася, што ўсё тое, што яна напісала да гэтага часу зьяўляецца ня чым іншым, а проста—ілжою. І вось кідаючыся сюды-туды, як угарэлыя, пекачы ды мэнкі, хочуць зрабіць нейкі пасьпех!

### Шахрайства „Думкі Працы“.

„Думка Працы“ робіць націск на тое, што апошнія яе канфіскацыі адбыліся за гэтакія артыкулы: „Наш адказ“ (Сялянскай Ніве), „Яшчэ раз наш адказ „Ярэмічавай кампаніі“. Калі так, дык і мы напомнім, што канфіската „Сялянскае Нівы“ адбылася за гэтакія артыкулы „Дзе здрада“, (у гэтым абгаварывалася кумаўство „Думкі Працы“ з польскімі сацыялістамі) і „Думка Працы“ у ролі абаронцы — умястоўшчыны“.

Калі „Думка Працы“ хоча зрабіць з гэтага нейкі эфэкт, дык няхай робіць! Мы паддаем ёй матэр'ялу!...

### Кашмары „Думкі Працы“.

У № 9 „Думка Працы“ зьмясьціла фэльетон „Кашмар выбаршчыка“. У гэтым фэльетоне „Думка Працы“ выводзіць селяніна Ахрэма, які быццам начытаўшыся беларускіх газэтаў, усю ноч відзеў кашмары (страшна-жудасныя сны). Мы лічым, што наш беларускі селянін ня можа быць гэтакім, якім яго выстаўляе „Думка Працы. Наш селянін—мае здаровую псыхіку, а дзеля гэтага мы лічым, што „Думка Працы“ сваім фэльетонам паказала сваю фізыяномію (абліччa) і вось яно, дык якраз абвеяна кашмарам. Гэта ня сялянства відзіць кашмарныя сны, а пісака фэльетону. Селянін ведае, хто і што ён значыць і ад гэтакіх рэчаў, як пісаніна Паўлюкевіча, Умястоўскага і „Думкі Працы“ мэнкі ды мамэнькі у кашмарнасьць не пападзе. Ня думайце мэнкі „Працы“, што селянін таксама вар'ят як і вы!

Фэльетон „Думкі Працы“—Кашмар выбаршчыка“ лічым насьмешкаю над сялянствам. У гэтым нам кожны чалавек прызнае рацыю.

Дык вось, чым займаецца „Думка Працы“—высьмеіваньнем сялянства, робячы з яго псыхічна-хворых тыпаў.

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Літоўска-нямецкі арбітражны дагавор.

29 студзеня ў Бэрліне падпісаны арбітражны дагавор паміж Літвой і Нямеччынаю. Дагавор падпісалі: з боку Нямеччыны—мін. зам. спраў Штрэзэман, з боку Літвы—сам дыктатар Вальдэмарас, які за некалькі дзён перад гэтым выежджаў у Бэрлін.

### Чыгункавая катастрофа ў Індыі.

У Лёндан падаюць вестку аб страшнай катастрофе, якая здарылася на чыгунцы Маджляй—Рангун у Індыі. На мосьце выкалеіўся цягнік, прычым паравоз, два багажныя вагоны і тры вагоны III клясы зваліліся з мосту ў ваду. Больш 40 чалавек забіта, ранена каля 30. Катастрофа наступіла ў выніку расшрубаваньня шынаў.

### Выбухі вульканаў.

Вулькан Кракатоа разьвівае ажыўленую дзейнасьць так, што з мора, блізу гэтага вулькану, высунуўся новы востраў.

Але апрача Кракатоа, як згаварыўшыся, пачалі дзеяць вульканы і ў іншых месцах шырокага сьвету. І так:

На востраве Санторын, каля берагоў Грэцыі, ажывіўся вулькан Санторын, які засыпаў попелам і заліў лавіцаю свае аколіцы.

І ў Нікарагуа прачнуўся вулькан гэтага-ж назову. Акалічнае жыхарства ў перапалоху ўцякае. Шум выбуху чуцён за некалькі міляў ад вулькану. У глыбіні-ж амэрыканскае сушы чуваць падземныя штуршкі.

Апрача гэтых наземных вульканаў, пачаў сваю дзейнасьць і падводны, Шэвельюг, які выкідвае лавіцу панад паверхню мора.

### Дзікая правакацыя паліцыі.

У Амэрыцы вельмі часта здараюцца выпадкі аграбленьня банкаў, пры чым, у большасьці выпадкаў, паліцыя ня можа знайсьці злачынцаў. У сувязі з гэтым некаторыя банкі штату Тэхас абвесьцілі грашовую нагароду за ліквідацыю банд грабежнікаў. І вось, у месьце Дальмо паліцыя напала на—„амэрыканскі" спосаб атрымаць гэтую нагароду.

Аднаго разу, некалькім сялянам-работнікам паліцыя запрапанавала ў назначаны тэрмін прысьці ў банк, а самі зрабілі засаду. Калі зьявіліся сяляне ў вызначаным тэрміне каля банку—паліцэйскія пачалі страляць, вынікам чаго 4-х сялян было забіта, а 1 цяжка ранены.

Ці-ж гэта ня дзікая правакацыя?

### Несправядлівая справядлівасьць.

30 гадоў таму назад у Сіобо (Швэцыя) быў асуджаны на дажыцьцёвы вастрог нейкі Томассон за забойства служанкі. На гэтых днях яго выпусьцілі з вастрогу, бо... аказалася, што ён нявінны. Забойцаю служанкі, як выясьнілася, ёсьць Свэнсон, каторага арыштавана. Ахвяра памылкі вагі справядлівасьці ў руках дзяржаўных судзьдзяў, Томассон, каторы нявінна мучыўся 30 гадоў у лёхах вастрогу, цяпер мучыцца... у доме вар'ятаў.

### „Выспы Спакою".

Замежныя газэты пішуць, што былы нямецкі імпэратар Вільгэльм нядаўна купіў дзьве выспы на возяры Ляго-Маджіорэ (Швайцарыя). За гэтыя выспы заплаціў ён 14 тысячаў фунтаў штэрлінгаў (каля 610,000 злотых). Гэтыя выспы Вільгэльм хоча ўпарадкаваць і назваць іх „Выспамі Спакою".

### РОЗНЫЯ ВЕСТКІ.

— У Нарвэгіі стварыўся новы ўрад сацыялістага Горнсруда.

— 25 студзеня італьянскі і югаслаўянскі паўнамоцнікі ўрадаў падпісалі ўмову, па якой прыяцельскі дагавор паміж Італіяю і Югаславіяю з 1924 году прадаўжаецца да 27 ліпня гэт. году.

— 28 студзеня памёр выдатны гішпанскі пісьменьнік—Бляско Ібанэз.

— У Кантоне выкрыта камуністычная змова Арыштаваныя 44 камуністыя зараз-жа былі расстраляны.

— У Маскве зсуджаны на 10 гадоў вастрогу ксёндз Скальскі за антысавецкую прапаганду паміж Палякаў, грамадзянаў СССР, і ўчасьце ў контр-рэвалюцыйных арганізацыях.

— У Маскве распачаліся польска-савецкія гандлёвыя перагаворы.

— У Баварыі і аколіцах швайцарскай граніцы 29 студзеня чулася землятрасеньне. Жыхарства местаў Лераху, Мюльгэйму і Фрэйнбургу ў перапалоху выбегала на вуліцу з дамоў, у каторых трасьліся сьцены і падала мэбэль.

# Гаспадарскі аддзел.

### Як палепшыць пяшчаную зямлю.

На абшарах Беларусі амаль усюды залягаюць пяскі, на якіх селяніну вельмі цяжка вясьці гаспадарку, не палепшыўшы іх тым, ці іншым спосабам. Мэта гэтага нарысу — пазнаёміць нашага селяніна, як паляпшаць пяшчанае поле ў нашых беларускіх умовах, без вялікіх стратаў.

Каб перайсьці да гутаркі аб тым, што трэба рабіць, каб палепшыць пяшчаную зямлю, перш спынімся на тым, што ўяўляе сабой яна, як грунт, на якім павінна расьці збожжа.

Пяшчаная зямля, як вядома кожнаму земляробу, ня спрыяе ўзросту на ёй расьлін; яна не дае ў належнай колькасьці пажыўных матэрыялаў расьліне. Апрача гэтага, пяскі зьяўляюцца вельмі сыпкімі, дзякуючы чаму не задзержваюць у сабе вільгаці, а прапушчаюць яе ў глыбіню. Улетку яны вельмі награваюцца, а пры адсутнасьці влагасьці расьліна ссыхае... Вось гэтыя недахопы пяскоў і зьяўляюцца галоўнымі прычынамі іх малой ураджайнасьці і з імі прыходзіцца вясьці барацьбу селяніну, каб атрымаць добры ураджай. Вялікая сыпкасьць пяскоў залежыць, галоўным чынам, ад адсутнасьці таго цэмэнту, які зьлеплівае зямлю ў маленькія грудкі, што зьяўляецца толькі на тых землях, аб якіх кажуць: „Гэта зямля з добрай структурай (будовай)". Матэрыяламі, з якога ўтвараецца гэты цэмэнт, ёсьць гной, карэньні, лісьцё і інш. рэшткі расьліннасьці, а таксама гліна, вапна. Усяго гэтага ў пяскох вельмі мала. Такім чынам, вецер разьдзьмухвае пясок і агаляе карэньні тых расьлін, якія здолелі тым ці іншым спосабам там узрасьці. Бывае і так, што пясок засыпае суседнія вучасткі зямлі і часта на вялікую глыбіню.

Другою заганаю пяскоў ёсьць тое, што ён дрэнна ўдзержвае вільгаць. Вада не задзержваецца ў ёй, а працякае далёка ў глыб. Такім чынам, запас вады ў зямлі тут заўсёды невялікі, нават зараз пасьля дажджу. Падніманьне вады з глыбокіх пазёмаў на пяскох вельмі незначнае, чаму і ня мае ніякага ўплыву на рост расьлін.

Трэцяе ліха пяскоў заключаецца ў тым, што, лёгка высыхаючы, яны сільна награваюцца. Патрэбна зусім мала цяпла, каб нагрэць такую зямлю. Награючыся, пяшчаныя землі трацяць і без таго малы запас вільгаці, ад чаго расьліны пападаюць у такія ўмовы, якія зусім ня спрыяюць іх росту. Расьліны пачынаюць хварэць, перастаюць расьці і часта зусім гінуць.

Але, калі з гэтымі недахопамі нашых пяшчаных грунтаў у нашых умовах можна яшчэ пагадзіцца, дзеля таго, што ў нас вільгаці праз цэлы год не бракуе, бо вялікай пякоты ня бывае, дык чацьвертае ліха пяскоў дае аб сабе ведаць кажнаму нашаму селяніну ў поўнай меры. Ліха гэта бывае ў вялікім недахопе тых пажыўных рэчаў, без якіх немагчыма добрае разьвіцьцё расьлін, а пяскі якраз не ўладаюць здольнасьцю задзержываць і той бедны запас пажывы, які мае ў сабе.

Як даведаліся вучоныя, дык расьліны для свайго росту бяруць з зямлі галоўным чынам азот, фосфар і калі (паташ).

Гэтыя тры рэчы земляроб кладзе ў зямлю разам з гноем. Гной перагнівае ў зямлі, пераходзіць у мінэральныя солі, якія распушчаюцца ў вадзе і ідуць на спажыву расьлінам.

Большая частка пяскоў складаецца з крупінак кварцу (белы пясок), у якіх пажыўных матэр'ялаў няма. Іншых рэчаў якія маглі-б зьяўляцца карыснымі для расьлін, у пяску — вельмі мала, а калі і ёсьць, дык расьліны іх ня ўжываюць, бо яны дрэнна распушчаюцца ў вадзе.

З тэй прычыны, што на пяскох расьце вельмі дробная і малая расьліннасьць, пажыўныя матэры ад перагніваньня яе ня могуць здаволіць патрэбы наступных расьлін і ня робяць уплыву на структуру (будову) ральлі. А калі мы ўспоўнім, што пяскі хутка прапушчаюць праз сябе ваду, якая ўносіць з сабою і вельмі цэнную спажыву для расьлін, дык стане зразумелым, чаму пажыўных матэрыяў заўсёды на пяшчаных землях бракуе. Вось што прадстаўляюць сабой пяскі, якія займаюць большую частку абшараў Беларусі.

Ведаючы ўсе гэтыя недахопы пяшчаных земляў, селянін і павінен імкнуцца да таго, каб гэтых недахопаў ня было.

Каб перайсьці да разгляду спосабаў паляпшэньня пяскоў, мы мусім прыпомніць, што заганаю іх зьяўляецца ня толькі недахоп спажыўный для расьлін матэры, але і дрэнная будова пяскоў, што разам не дае магчымасьці добра расьці расьлінам. Вось дзеля чаго гаспадару патрэбна ня толькі абагаціць пясок спажывай для расьлін, але зрабіць яго такім, каб гэта спажыва лепш выкарыстоўвалася збожжам.

Самым лепшым спосабам, зразумела, будзе гной, але-ж яго ўсюды недахват, ды на далёкія ад сялібы палоскі часта і нявыгадна яго вазіць.

Прыходзіцца шукаць тут другі выхад, які дазволіў-бы замяніць нават цалком гной. А лепшым выхадам у гэтым выпадку будзе толькі зялёнае ўгнаеньне лубінам, сэрадэляй і інш. Гэтыя расьліны якраз і ўзбагачваюць зямлю самым каштоўным складнікам для расьлін — азотам і тым матэр'ялам, што зьлеплівае ральлю ў дробныя глыбкі, ці іначай кажучы, палепшаюць структуру зямлі. *)

Цяпер у нас зялёнае ўгнаеньне хоць і пашыраецца сярод сялян, але яшчэ не захапіла ўсіх абшараў нашае Бацькаўшчыны. Неазнаёмасьць сялянства некаторых частак Заход. Беларусі з карысьцю зялёнага ўгнаеньня ёсьць галоўная прычына дрэнных ураджаяў пяшчаных зямель.

Гадоў 60—70 таму назад у такім самым становішчы, як цяпер у нас, знаходзілася сельская гаспадарка на пяшчаных землях у Нямеччыне. Падобна беларускаму сялянству нямецкі земляроб гараваў над сваімі пяскамі і не знаходзіў выхаду. І так было да таго часу, пакуль Немцы не пачалі ўжываць зялёнае ўгнаеньне. У іх, як і ў нас, аказалася найбольш прыгоднай — як зялёнае ўгнаеньне — расьліна лубін. З таго часу, як немцы пачалі ўжываць лубін для угнаеньня, склад пяскоў стаў хутка паляпшацца і ўраджаі павялічвацца. Цяпер нямецкі хлебароб лічыць, што бяз лубіну нельга гаспадарыць на пяскох і што лубінавае ўгнаеньне зьяўляецца падставай усей гаспадаркі на пяшчаных землях.

Лубін, як угнаеньне, можа стаяць побач з гноем, а нават і вышэй. Гэта падцьвержаец ураджаі на Новазыбкаўскай дасьледчай станцыі ў Гомельшчыне.

У 1918 г. на пяскох было пасеяна жыта і пры розных спосабах угнаеньня ўраджаі былі атрыманы наступныя:

| | урадж. з дзес. |
|---|---|
| На гнаі (1800 п.) . . . | 35 п. |
| „ лубіне (1800 п.) . . | 54 п. |
| Без угнаеньня . . . | 12 п. |

Такім чынам, лубінавае ўгнаеньне павялічыла ураджай жыта больш за гной на 19 пуд.

Як і гной, лубін робіць уплыў ня толькі ў першы год на адну расьліну, а і ў наступныя гады. Чым часьцей заворваецца лубінавае ўгнаеньне на адным месцы, тым хутчэй паляпшаецца зямля.

У Нямеччыне, у культуральнай гаспадарцы на пяскох, лубінавае ўгнаеньне ўжываецца звычайна разам з мінэральнымі ўгнаеньнямі (парашкамі).

Лубінавае ўгнаеньне, асабліва з мінэральным, ужываецца ня толькі пад жыта, але і пад іншыя расьліны.

Чым-жа тлумачыцца вялікі ўплыў лубінавага ўгнаеньня і што дае яно зямлі?

Тлумачыцца гэта тым, што пры добрым росьце лубін дае адных толькі наземных частак каля 300 пуд. сухіх матэрыяў на дзесяціну. У гэтых сухіх матэрыях знаходзіцца каля 10 пудоў азоту. Да параўнаньня зазначым, што добрае ўгнаеньне — сялетра, якой часам кладзецца каля 20 пуд. на дзесяціну, мае ў сабе толькі каля трох пудоў азоту. Нават у гнаі і то ня так шмат азоту — у 2000 пудох каля 10 пудоў. Як бачым, лубін зьяўляецца багатай крыніцай самай цэннай часткай спажывы для рась лін — азотам.

### Як палепшыць сялянскае насеньне.

„Што пасееш, тое і сажнеш", каж а прыказка. Якасьць насеньня мае вялізнае значэньне ў гаспадарцы. Добрае насеньне дае надзею і на добры ўраджай. Гэта правіла трэба было-б узяць пад увагу ўсім нашым гаспадаром, калі яны жадаюць падняць даходнасьць свае́й гаспадаркі.

Пры сучасных умовах, сялянскае насеньне бывае большаю часткаю дробнае, мае шмат усялякага зельля, гатунак невядомы, шчуплае, усё гэта адбіваецца на ўраджаю і паніжае яго.

Тымчасам, у нас пад пасевы рознымі насеньнямі займаецца ня менш паловы ўсей зямлі. Спосабы, як палепшыць гэта насеньне — вельмі важныя і патрэбныя.

*) Можна палепшыць пяшчаную зямлю і торфам, але яго лепш ужываюць на подсьціл у хлявох, ды торф не праветраны можа часамі пашкодзіць росту расьлін.

# Усячына.

### Царскія каштоўнасьці.

Замежныя спэцыялістыя закончылі опісь і ацэнку царскіх каштоўнасьцяў, якія цяпер знаходзяцца ў Маскве ў падвалах камісар'яту скарбу. Толькі невялікая частка іх была прададзена бальшавікамі ангельскім банкірам за цану каля 2 мільёнаў даляраў.

Каштоўнасьці зьбіраліся вякамі і атрымліваліся з Кітайшчыны і Індыі ўзамен за мануфактуру, а также дабываліся на Урале. Тыя каштоўнасьці, якія цяпер ёсьць ў Маскве, спэцыялістыя ацанілі на 250 мільёнаў даляраў. Складаюцца яны з 406 рэчаў, пры чым ўсе брыльлянты важаць 25,300 каратаў, іншыя каштоўныя каменьні — 14,000 каратаў. (карат — трохі больш за 3 грамы).

Цікава адзначыць, што 14 рэчаў з гэтых каштоўнасьцяў набыты Мікалаем II

### Пратэст procіў хімічнай вайны.

У Брусэлі (Бэльгія) закончыліся працы газавай канфэрэнцыі, якая вынесла востры пратэст проціў хімічнай вайны.

Рэзалюцыя дамагаецца, каб ваенныя дзейнасьці вяліся толькі між варужанымі сіламі, каб не чапалі жыхарства. Старшыня бэльгійскага Чырвон. Крыжу Нольф унёс прапазыку, каб да кожнае дзяржавы, якая ў часе вайны будзе пагражаць газавымі атакамі безабароннаму жыхарству, тасаваліся жорсткія рэпрэсыі з боку ўсіх цывілізаваных дзяржаваў.

Між іншым канфэрэнцыя абвесьціла конкурс на найлепшую прыладу для абароны ад газавых атакаў. Праэкты павінны быць дастаўлены 18-й міжнароднай канфэрэнцыі Чырвонага Крыжу якая зьбярэцца ў кастрычніку ў Гаазе (Галяндыя).

# Пісьмо ў Рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

Прашу надрукаваць у Вашай газэце „С. Н." наступнае:

Мой брат, Ларыён Юрэвіч, сядзіць у вастрозе ў Вялейцы за справу „Грамады", абвінавачаны па 102 арт. К. К. Паўлюкевіч неяк падрадзіўся выручыць майго брата з вастрогу і сказаў, каб я прыехаў да яго ў Вільню. Калі я прыехаў, дык Паўлюкевіч сказаў, што—трудная справа, трэба, каб грошы даў, і параіў якому абаронцу. Меўшы пры сабе 45 злотых, даў іх нейкаму абаронцу Друцка-Падбярэскаму і пры гэтым акт абвінавачаньня. Я абрадаваўся, што Бог даў добрага абаронца за такія малыя грошы і пэўны быў, што брат выйдзе на волю.

Але-ж калі прышоў тэрмін суду 8-га кастрычніка 1927 году, дык Друцкі і носа не паказаў на суд... пэўне быў п'яны ў гэты дзень за мае грошы, нават і „акту" не адаслаў.

Ганьба вам, Паўлюкевіч і Друцкі! Вы не бароніце нашы інтарэсы, бо Вы здраднікі працоўных масаў.

Базыль Юрэвіч.

---

Апрача таго ёсьць яшчэ важная прычына, дзеля чаго трэба рупіцца завясьці ня толькі добры, але і аднастайны гатунак насеньня, бо тады будзе лепшы зыск з зямлі, а калі так, дык знача—праца лепш аплаціцца. Той, каму здарыцца прадаць, дык за добры гатунак возьме лепшую цану і хутчэй прадасьць.

Карысьць аднастайнага гатунку зярняці відаць ужо з таго, што буйныя двары, маючы шмат аднолькавага зярняці, заўсёды прадаюць яго шмат даражэй, чым сяляне.

Спосабы палепшэньня насеньня ў сялян наступныя:

1) Палепшэньне свайго зярняці акуратнай ачысткай і сартыроўкай, пры дапамозе пунктаў для ачысткі збожа.

2) Палепшэньне насеньня агульнай затенай свайго зярняці на лепшы гатунак з добрых гаспадарак.

3) Набываць насеньне заводнае з першых рук.

Што тычыцца першага спосабу палепшэньня насеньня — акуратнай ачысткай і сартыроўкай, дык гэта практыкуецца там, дзе павятовыя соймікі арганізавалі пункты для ачысткі насеньня. Але дзеля таго, што гэтакіх пунктаў вельмі мала і трудна спадзявацца, каб сетка іх павялічалася, дык чакаць хуткага палепшэньня насеньня гэтым спосабам цяпер нельга. Ляпей будзе даставаць палепшанае насеньне з добрых гаспадарак.

Гэты спосаб, даючы добрыя і скорыя вынікі, даступны дробнаму гаспадару без вялікшых выдаткаў. К.

# ВОКАМ ПА СЬВЕЦЕ.

VIII.

У Варшаве ёсьць газэта, якая называецца АБЦ. Гэтыя тры літары пішуцца чырвонаю фарбаю, пэўна дзеля таго, каб прыгажэй выглядалі. Як ужо ведама, дык чырвонасьць зьяўляецца сымболем рэвалюцыйнасьці, але-ж чырвонасьць АБЦ з рэвалюцыйнасьцю нічога супольнага ня мае. Калі-ж ня мае чырвонасьці ідэалёгічна, дык, усё-ж такі, як пакажа ніжэй прыведзенае здарэньне, кіраўнікі гэтае тройчнасьці АБЦ гадуюць нейкую рэвалюцыйнасьць у сваіх жаданьнях.

Справа ў тым, што газэта АБЦ надрукавала падрабязную вестку аб тым, што нібыта ў Савецкай Расеі вядомы „гэнэрал“ чырвонае арміі Тухачэўскі падняў ваенны бунт, быццам, маючы пад сваей камандай некалькі дывізіяў, ідзе на Маскву, каб скінуць сучасны савецкі ўрад і стварыць нешта новае. За АБЦ, чорны „Dziennik Wileński“ таксама падаў гэтую вестку і пэўна па іх думках рэвалюцыя гатова. Аднак-жа запраўднасьць выглядае іначай, бо падцьвярджэньня гэтым весткам ня было, а, наадварот, замежныя газэты паведамілі, што ніякага бунту ў Саветах няма. Сама па сабе гэтая пустая справа мо' і не цікава. Аднак-жа яна зьяўляецца характэрнаю дзеля таго, што выклікала навонкі тыя лятункі, якія ёсьць у эндэцкіх шавіністычных галовах. Пэўна, не адзін эндэк ужо камбінаваў, каб як-небудзь ашчасьлівіць сваею прысутнасьцю Менск, ды яшчэ некаторыя мясцовасьці, у выніку хатняй калатні ў Саветах.

Паміма гэтае вымышленае сэнсацыі некаторых польскіх газэтаў, наша вока заўважыла і яшчэ адну сэнсацыю... якая здаецца ўжо больш праўдападобнаю.

Чытаем у замежных газэтах вестку аб тым, што ў Нарвэгіі стварыўся новы ўрад і што міністрам замежных справаў назначаны камуністы, прафэсар гісторыі Адвэрд Буль. Гэта, дык запраўды цікава і дзіўна!... Цікава і дзіўна вось чаму...

Нарвэгія, гэта маленькая дзяржава, якая знаходзіцца на Скандынаўскай паўвысьпе, дзе займае вузенькую палосачну зямлі пры Атлянтычным акіяне і мае нешта крыху болей, як 2 мільёны ўсяго жыхарства. Галавою дзяржавы зьяўляецца канстытуцыйны кароль. Гэта знача, што кароль ня мае абсалютнае (поўнае) улады, а што дзяржаваю кіруе кароль з дапамогаю Сойму. І вось, калі Нарвэскі Сойм выбраны народам даверыў Бульлю справу замежнай палітыкі, дык знача — і павінна быць гэтак. Кароль не пратэставаў! Наколькі мы ведаем, дык паміж каралём і камунізмам нічога супольнага быць ня можа... А дзеля гэтага і прыходзіцца дзівіцца гэтай праяве — дзе кароль і камуністы зьяўляюцца супрацоўнікамі.

Нам здаецца, што гэтая праява зьяўляецца адзнакаю таго, што камунізм ужо прытупляецца... Ужо, так сказаць, зьядаецца, падобна таму, як у жывёлы зубы і калі пры гэтакіх варунках эканамічна-палітычнага ладу камунізм будзе істнаваць другое дзесяцігодзьдзе, дык ясна, што камунізм стане нечым ужо звычайным. Ня дарам у самым камуністычным царстве ў Сав. Расеі камуністы разьбіліся на тры варожыя сабе лагеры. Гэта знача, што камунізм — абуржуйваецца!

Яшчэ ўсё не перастае быць цікаваю польска-літоўская справа. Нам ужо ведама, што на апошняй сэсіі Лігі Нацыяў Польшчу і Літву, якія знаходзяцца ў спрэчцы, прынцыпова пагадзілі. Польшча і Літва павінны былі наладзіць добрыя адносіны паміж сабою... Але-ж сталася так, што Ліга Нацыяў не паказала спосабу, ня вызначыла шляху, якім маглі-б гэтыя дзьве дзяржавы дайсьці да згоды.

А калі так, дык распачалася паміж імі перапіска. Польскі міністар запрапанаваў літоўскаму міністру распачаць перагаворы, але ж літоўскі міністар Вальдэмарас прапанову ня прыняў запатрэбаваўшы больш канкрэтнасьці. Праўдзівей кажучы, Вальдэмарас хоча ведаць, аб чым і як павінна гаварыць Польшча і Літва, каб наладзіць добрыя адносіны. Так, што ў гэтай справе яшчэ нічога такога, што-б можна было назваць запраўды такім, якое вядзе да згоды, пакуль-што мы ня бачым.

Калі-ж у польска-літоўскіх адносінах няма ніякага, ані складу, ані ладу, дык у нямецка-літоўскіх адносінах відзім — парадак і направу. Хаця яшчэ ніколі ня было паміж Нямеччынай і Літвой ніякіх спрэчкаў, але-ж ня было і фармальнага прыяцельства. Цяпер-жа гэтае апошняе ўжо ёсьць. Гэтымі днямі ў Бэрліне быў падпісаны паміж Нямеччынай і Літвою гварантцыйны дагавор аб ненападаньні.

Справа гэтая выяўляецца гэтак. Нямеччына з аднаго, а Літва з другога боку, ўзаемна абязуюцца усе спрэчкі, якія магчыма паўстануць калі-небудзь паміж імі, вырашаць па прынцыпу і з дапамогаю суду. Пры чым, у выпадку таго, калі здарыцца, што якая-колечы з гэтых дзяржаваў будзе мець якую-небудзь спрэчку з іншаю дзяржаваю, дык у даным выпадку Літва ў адносінах да Нямеччыны, ці Нямеччына да Літвы, павінна ўтрымаць нэйтралітэт, неўмешацельства. Адначасова ідуць перагаворы і аб гандлёвым дагаворы... Як відзім, дык Літва сваё палітычнае міжнароднае палажэньне парадкуе, а — гэтым самым умацоўвае.

Калі-ж мы адхілімся ад гэтага і скіруемся куды-небудзь іначай, дык і зноў заўважым характэрную адзнаку часу. Вясною гэтага году маюць адбыцца выбары ўва Францыі, у Францускі парлямант. У сувязі з гэтым ізноў вядуць агітацыю лявіцовыя францускія групоўкі. Яны маюць на мэце — узяць уладу ўва Францыі, скінуўшы рэакцыйна-буржуазны ўрад Пуанкарэ і замяніць радыкальным урадам на сацыялістычным „соусе“. Характэрыстычным тут зьяўляецца тое, што гэтакі ўрад ужо Францыя бачыла, але-ж так сталася, што той урад утрымацца ня мог, ня гледзячы на тое, што меў большасьць у парлямэнце.

У 1924 годзе, пасьля тагачасных выбараў францускі парлямант складаўся з радыкальных лявіцовых групіровак. Дык на пачатку сваей працы прарабіў гэтакі кругазварот. Перадусім адхіліў ад улады прэм'ер-міністра Пуанкарэ і прэзыдэнта Мільерана. Іх месца заняў радыкал Эрыё і Думэрг. Але-ж гэта нядоўга цягнулася, бо хутка на месцы Эрыё бачым Пэнлевэ, Кайё, і таго-ж самага Пуанкарэ, які ўжо ізноў кіруе Францыей два гады. Вось чаму патугі рознага калібру і масьці францускіх радыкалаў да ўлады выглядаюць неяк дзіцячаю забаўкаю. Малі ўладу, здабылі лёгка, яшчэ лягчэй аддалі яе, а цяпер ізноў клічуць масы да эмаганьня з тым, што самыя стварылі ў парлямэнце. Да гэтага пытаньня магчыма, што калі-небудзь яшчэ вернемся, а на сёньня ўжо даволі.

Зыркі.

# ВЕСТКІ З КРАЮ.

## Слава Шутоўскім Сябром!

(в. Шутовічы, Ашмянскага пав.).

Шутаўскія сябры Гуртка Беларускага Інст. Гасп. і Культ. узяліся вельмі шчыра да працы на ніве культурна-прасьветнай. Так, ад Новага Году ўжо пасьпелі паставіць аж два прадстаўленьні: першае — была пастаўлена на Новы Год, аб якім ужо пісалася ў „Biel. Krynicy“ № 3, а другое на праваслаўнае Вадахрышчэньне, 19 студзеня. Вось аб гэтым апошнім хачу і пагаварыць. У праграму прадстаўленьня ўваходзіла драма Аляхновіча „Дзядзька Якуб“ у 2-х актах і кароценькі жарт „Боты“.

На жаль, перад самай вечарынай, захварэў адзін здольны артыста, які меў іграць Андрэя ў 1-м акце, а ў другім „дзеда“; гэта-ж самая перашкода і адбілася на ігры самой штукі.

Другая перашкода была ў тым, што з прычыны вельмі малой хаты (бо толькі 10×10 аршынаў) нельга было зрабіць адпаведную сцэну.

Першы акт быў адыграны вельмі добра, толькі другі троха горш: у гутарцы Ігната з „Дзедам“ былі маленькія бракі.

Трэба аднак сказаць, што драму яшчэ ранавата на вёсцы ставіць, вясковая публіка вымагае камэдыі. Не кажу аб усіх, але большасьці, дык гэтак. У такі сумны момант, калі Якуб быў пакінуты жонкаю і падышоўшы да калыскі дзіцяці, стаў выказваць сваё гора яму, у прысутных разьлягаўся сьмех, калі трэба было горка плакаць. Жарт „Боты“ за тое быў вельмі добра сыграны і ўзбудзіў здаровы сьмех у публіцы.

Прысутных на вечарыне было вельмі шмат, як ніколі, былі прыездныя з усіх суседніх вёсак у адлегласьці 5—12 вёрст.

Гэты крок трэба шчыра прывітаць, што так грамадзянства горнецца да свайго роднага прадстаўленьня.

Слава Вам, дарагія браты суседніх вёсак!

І так прайшла другая вечарына ў вёсцы Шутавічы. Трэба зазначыць, што перашкод з боку шутаўскіх „polaków“ на гэты раз ня было, а мо' яны ўжо зразумелі, што ня добра рабілі і як я знаю, што некаторыя каяцца за свае папярэднія паступкі. Дык, заклікаю Вас, дарагія браты і сёстры, пакіньце ўсе старыя выхадкі, ня слухайце ўсялякіх паджыгалаў-здраднікаў і авантурнікаў на падабізну Адольфа і др., а ідзіце ў рады супольнай працы з сябрамі Бел. Гуртка Інт. Гасп. і Культуры пад сьцяг культуры і прасьветы!

Слава Вам, Шутаўскія сябры! Слава!

Вы сваёю працаю даецё культурнае багацьце нашаму сярмяжнаму брату, Вашая праца на дарма ня пойдзе: пасеянае вамі, дасьць ураджай, як кажа найвялікшы наш паэт, Янка Купала:

Ночка цёмная на сьвеце
Вечна не пануе,
Зерня, кінутае ў ніву,
Ўсходзе ды красуе.

Дык-жа слава Вам, дарагія сьвятары!

Ваш Спагаднік.

## Адказ нясьвіскім пісакам.

У нясьвіскай газэце „Wspólna Sprawa“ з дня 24.XII. 1927 г. за № 52 (орган нясьвіскіх абшарнікаў), зьмешчаны артыкул пад назовам: „Blok mniejszości“. Увесь артыкул, ад пачатку і да канца, поўны лжы, хлусьні і ненавісьці да блёку нацыянальных меншасьцяў. Так, напрыклад, там гаворыцца, што: „Hasłem łączącem ich... jest nienawiść do Państwa Polskiego!“ „Kto do bloku mniejszości się przyłączy, ten dobrowolnie staje się obywatelem drugiego gatunku i skutki tego muszą się na nim odbić na każdym kroku...“ „Polska będzie, a więc lepiej z nią żyć w zgodzie!...“ і г. д. Міма гэтага артыкулу, можна было-б прайсьці моўчкі, каб ня факт, які прымушае на ім прыпыніцца. Справа ў тым, што гэта газэтка дарма высылаецца кожнаму солтысу, а, знача, у той, ці іншай меры, шкодзіць справе беларускага асьведамленьня.

Дык вось, паночкі, мае вы галубочкі з „Wspólnaj Sprawy“, ведайце, дзеля чаго мы, Беларусы, ідзём на выбары ў Сойм і Сэнат супольна з гэтымі нацыянальнасьцямі. Сутнасьць справы крыецца ў тым, што гэтыя выбары для нас, Беларусаў, маюць вялізарнае значэньне. Маючы сваіх прадстаўнікоў у Сойме і Сэнаце, мы, па-першае, можам паказаць усяму сьвету, што ў Польшчы жыве Беларускі Народ, а па-другое, можам праз соймавую трыбуну вясьці барацьбу за зьдзейсьненьне нашых нацыянальных і сацыяльных ідэалаў. Каб мець пасьпех у гэтай акцыі, трэба каб Беларускі Народ меў у Сойме і Сэнаце найбольш сваіх прадстаўнікоў. Дзеля гэтага, а таксама дзеля таго, што выбарны закон і падзел выбарных акругоў крыўдзяць ня толькі нас, Беларусаў, але і іншыя нацыі меншасьцяў, мы, Беларусы, прымушаны аб'яднацца ня толькі між сабою, але і з іншымі нацыянальнасьцямі,—Жыдамі, Украінцамі, Ліцьвінамі, Немцамі. Толькі аб'яднаўшыся між сабой і з іншымі нацыянальнымі меншасьцямі, кожная меншасьць у Польшчы, пры істнуючых выбарных законах, можа надзеяцца на больш-менш памысны рэзультат выбараў. З гэтага відаць, што ніякае „nienawiści do Państwa Polskiego“ няма, ніякае правакацыі таксама няма, а ёсьць простая абарона сваіх правоў, ёсьць тэхнічная неабходнасьць, звычайнае імкненьне кожнае нацыянальнай меншасьці правясьці ў хаўрусе найбольш сваіх прадстаўнікоў. Кончацца выбары і кожная нацыя вольна ў сваіх адносінах да гэтай нацыі. Што-ж датыча вашых пагрозаў, дык яны нікога не палохаюць і ня дзівяць, бо Беларусы, Жыды і інш. і бяз гэтых пагрозаў даўно ўжо... на палажэньні „obywateli drugiego gatunku“. Беларус, як і Жыд, Ліцьвін, Немец, ня мае магчымасьці і да сёньняшняга дня папасьці на дзяржаўную службу, ня мае тых палітычных правоў, якімі карыстаецца, скажам, Паляк. Беларус ня можа свабодна выяўляць сваей думкі, сваей мовы, культуры, адзнакаў свайго рэлігійнага пачуцьця. Беларусу і па сёньняшні дзень забаронена здабываць асьвету ў роднай яму беларускай мове. Здабыць усё гэта мы хочам легальным шляхам, праз Польскія Сойм і Сэнат. Забараняць нам гэта, пужаць нас рознымі рэпрэсіямі, ніхто ня мае права, а калі яно ёсьць, дык гэта ня што іншае, як пагвалчаньне асноўных правоў выбаршчыкаў, проці чаго мы рашуча пратэстуем.

Няхай жыве Беларускае Аб'яднаньне!

Няхай жыве Блёк Нацыянальных Меншасьцяў!

Сяляне! Галасуйце за сьпісак Беларускага Аб'яднаньня, за сьпісак Блёку Нацыянальных Меншасьцяў! Галасуйма за №-18!!!

Селянін.

## Беларускі спэктакль.

(в. Беніца, Маладэчанскага павету).

7—I—28 г., г. ё. на першы дзень праваслаўных Каляд быў наладжаны беларускі спэктакль ў Беніцы ў гміннай салі. Ініцыятарам яго быў гр. Паўла Асіповіч. На сцэне ігралі аматары—хлапцы і дзяўчаты з тутэйшых вёсак.

Пастаўлены былі: „Заручыны Паўлінкі“—Аляхновіча, „Зьбянтэжаны Саўка“ — Родзевіча і „У доктара“ фарс. Пасьля спэктаклю адбылася вечарына—скокі пад струнную аркестру.

Трэба прызнаць, што спэктакль быў наладжаны вельмі добра, — гр. Асіповіч, не шкадуючы сваіх стараньняў, зрабіў вельмі мілы прыём для ўсіх прысутных. Атрысты-аматары памастацку выканалі свае ролі. Парадак на салі быў як найлепшы і кожнаму прысутнаму было дадзена месца. Ня гледзячы на тое, што прысутнымі былі пераважна „chamy“, як гаварылі некаторыя паны, кажды быў прыняты з чэсьцю. Вечарына закончылася каля 4-й гадз. ран. Усе разышліся з моцнаю вераю, што гр. Асіповіч не пашкадуе сваей энэргічнай працы і пачне ладзіць такія спэктаклі—вечарыны часьцей, дзе моладзь пойдзе яму на спатканьне.

Чэсьць Табе, слаўны сявец Культуры сярод нас, цёмных сялян! Чэсьць Табе ад усіх прысутных на спэктаклю!

*Франук П., Рыгор —віч, Ю. С.*



## АБВЕСТКА.

У панядзелак, 6 лютага, ў памешканьні Белар. Інст. Гаспадаркі і Культуры (Вострабрамская, 8—1) адбудзецца

АГУЛЬНЫ СХОД

сяброў Віленскага Гуртка Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

**На парадку дня:**

1. Справаздача Ураду.
2. Перавыбары Ураду Гуртка.
3. Бягучыя справы.

Пачатак а гадзіне 6 увечары.

**Прысутнасьць Сяброў Гуртка — абавязкава.**



Рэдактар і выдавец А. Герасімчук. Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.